Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
В.а. галоўнага рэдактара
і заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, г.Мінск,
вул. Змітрака Бядулі, 6-47.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Серада, 20 студзеня 1999 г. № 6 (537) Кошт свабодны

## Спадзяюцца наладзіць дыялог

### *Інспектары АБСЕ зацікавіліся прэзідэнцкімі выбарамі*

Учора завяршыўся трохдзённы візіт у Мінск «Рабочай групы па Беларусі», заснаванай у мінулым годзе Парламенцкай асамблеяй АБСЕ. У яе складзе прадстаўнікі Германіі, Фінляндыі, Грузіі і Украіны. Кіраўнік групы былы міністр замежных справаў Румыніі Адрыян Севярын павінен падрыхтаваць даклад пра сітуацыю на Беларусі прэзідэнту Асамблеі пані Хелле Дэн. Парламентарыі маюць намер наведвацца ў нашую краіну для падтрымкі дзейнасці кансультатыўна-наглядальнай групы АБСЕ ў Мінску. Спадар Севярын спадзяецца наладзіць дыялог паміж прэзідэнтам і апазіцыяй, а таксама паміж нашай краінай і міжнароднай супольнасцю.

Парламентарыі падкрэслілі, што АБСЕ па-ранейшаму прызнае легітымным парламентам Вярхоўны Савет 13-га склікання. Напрыканцы візіту Рабочая група сустрэлася з Сямёнам Шарэцкім, Міхаілам Чыгіром і Віктарам Ганчаром. Рашэнне Вярхоўнага Савета па арганізацыі прэзідэнцкіх выбараў у гэтым годзе, па словах пана Севярына, *«прадстаўлена з вялікай упэўненасцю і можа мець палітычныя наступствы»*. Парламентарыі АБСЕ спадзяюцца наладзіць трохбаковыя кансультацыі па правядзенні свабодных і дэмакратычных выбараў у Беларусі. Адрыян Севярын мяркуе, што беларускія ўлады прыслухаюцца да рэкамендацыяў кансультатыўна-наглядальнай групы АБСЕ па ўнясенні зменаў у закон аб выбарах. Гэта дазволіць большай колькасці грамадзянаў рэалізаваць сваё выбарчае права. Па словах кіраўніка Рабочай групы, *«цяжка ўявіць, якія крокі зробіць прэзідэнт Лукашэнка ў пытанні выбараў, але тут неабходна наладзіць дыялог, для дасягнення кансенсуса»*.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Пратэст супраць уціску доларам

**Прыватныя прадпрымальнікі, якія гандлююць на мінскім рэчавым рынку «Дынама», не выйшлі сёння на свае рабочыя месцы.**

Такім чынам гандляры пратэстуюць супраць неправамоцных дзеянняў адміністрацыі рынку.

Як паведаміў нам старшыня Свабоднага прафсаюза прадпрымальнікаў «Садружнасць» Арнольд Пячэрскі, прыватныя гандляры патрабуюць ад кіраўніцтва рынку адмяніць налічэнне арэнднай платы за гандлёвае месца ва ўмоўных адзінках. Па словах прадпрымальнікаў, гэтыя дзеянні чыноўнікаў супярэчаць шэрагу дзяржаўных законаў і ўказаў Лукашэнкі. Гандляры таксама збіраюцца накіраваць спецыяльны зварот у мінскую гарадскую пракуратуру і МУС з патрабаваннем правесці праверку гаспадарчай дзейнасці кіраўніцтва рынку.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Скандал вакол усенароднага даўгабуда

**Новы скандал узнік вакол будаўніцтва знакамітага гомельскага спецдыспансера.**

Швейцарска-югаслаўская фірма Смелт-Інтаг, нягледзячы на выплату ёй 4 мільёнаў долараў запазычанасці за раней зробленыя работы, так і не прыступіла да працы.

Гэта здарылася з-за таго, што рабочыя аб'яднання Гомельпрамбуд не зрабілі сваю частку работы, аб'ём якой складае каля 4 трыльёнаў рублёў. Нягледзячы на беспераробйнае фінансаванне, з іх асвоены толькі 50 мільярдаў. Пры такіх тэмпах гомельскія будаўнікі мусяць працаваць яшчэ 80 гадоў. Так што замежная фірма яўна паспяшалася прывезці ў Гомель тры вежавыя краны.

Галоўны ўрач спецдыспансера заяўляе, што гомельскія будаўнікі не выконваюць падпісаныя дамоўленасці таму, што ім больш выгадна працаваць на маскоўскіх аб'ектах. З-за гэтага на будоўлі дыспансера не хапае людзей.

Нагадаем, што будаўніцтва гомельскага спецдыспансера было распачата яшчэ ў 1991 годзе. У 1994 годзе яно было спынена з-за недахопу сродкаў. А ў 1997 годзе ўся Беларусь працавала на суботніку, каб заплаціць запазычанасць і няўстойку замежным будаўнікам. Але, нягледзячы на ўсенародныя намаганні, канца праблемам не бачна. Палешукі мяркуюць, што не толькі пацярпелыя ад аварыі на ЧАЭС, але і іхнія дзеці не маюць шанцаў дачакацца ўводу спецдыспансера ў строй.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Жыццё беларускіх арбайтараў

**Тры гады пазбаўлення волі пагражае 40-гадоваму рабочаму будаўніку з Ганцавічаў Іосіфу Варвашэвічу «за пагрозу насілля ў адносінах да службовай асобы».**

Іосіф разам са сваёй жонкай Святланай працавалі ў ганцавіцкай перасовачнай механізаванай калоне № 7. Паколькі работы для будаўнікоў цяпер у райцэнтры мала, кіраўніцтва ПМК накіравала мінулай восенню Святлану Варвашэвіч разам з брыгадай калегаў на часовую працу ў Расію. Пад Кастрамой яны будавалі катэджы для мясцовага начальства і «новых рускіх». Іосіф застаўся дома з чатырма дзецьмі 12—18 гадоў. Ён спадзяваўся, што жонцы ўдасца зарабіць грошай, каб пракарміць вялікую сям'ю. І вось, у пачатку снежня, Варвашэвіч атрымаў ліст ад жонкі, у якім тая прасіла даслаць ёй хоць крыху бульбы, бо зарплаты ў Расіі ім не плацяць і ў Святланы няма грошай нават на харчаванне. Абураны муж пайшоў да начальніка ПМК Івана Гарупіча і пачаў патрабаваць неадкладна вярнуць жонку дахаты. Начальнік тут жа выклікаў міліцыю і абвінаваціў Варвашэвіча ў пагрозе



замаху на сваё жыццё і здароўе. Іосіфа арыштавалі прама ў кабінеце, і вось ужо амаль два месяцы ён сядзіць у баранавіцкім следчым ізалятары. Суд па ягонай справе прызначаны на 26 студзеня.

Ад гневу таварыша Гарупіча пацярпела і жонка Варвашэвіча Святлана. Яна вярнулася з Кастрамы праз некалькі дзён пасля арышту мужа і была адразу ж звольнена з працы.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Інфекцыю вымыла з прабіркі?

У вёсцы Вялікае Залужжа Смалявіцкага раёна пакуль не выяўлены новыя жывёлы, хворыя на сібірскую язву. Няма пацярпелых і сярод людзей. Як мы ўжо паведамлялі, нядаўна тут зарэзалі карову, у якой выявілі гэтую інфекцыю. Спецыялісты схіляюцца да думкі, што небяспечная інфекцыя трапіла разам з кармамі. Падчас мінулага дажджлівага лета яе хутчэй за ўсё вымыла з зямлі. Аднак у той жа час у калгасе імя Гагарына знаходзіцца эксперыментальная база «Смалявічы», якая належыць навукова-даследчаму інстытуту мікрабіялогіі і эпідэміялогіі. Пасля падключэння Беларусі да міжнародных пагадненняў аб забароне вытворчасці бактэрыялагічнай зброі гэты інстытут трапіў у спіс установаў, за якімі быў устаноўлены кантроль міжнародных экспертаў. Невядома, якімі даследаваннямі займаецца цяпер лабараторыя «Смалявічы». Аднак у 60-ыя гады падобная ўспышка сібірскай язвы была зарэгістравана ў Свярдлоўску. Эксперты звязвалі гэты выпадак з распрацоўкай СССР бактэрыялагічнай зброі. Вучоны сакратар інстытута мікрабіялогіі і эпідэміялогіі Галіна Уладыка сцвярджае, што яе інстытут не мае ніякіх адносінаў да ўспышкі сібірскай язвы ў калгасе імя Гагарына, а вучоныя не трымалі ў руках узбуджальніка інфекцыі. Г.Уладыка сказала, што лабараторыя займаецца «іншымі» праблемамі.

**А.Д.**

## Плата за паветра

Такое «папярэджанне» атрымалі некаторыя незалежныя выданні, у тым ліку і наша газета, ад Беларускага дома друку. Мы не друкуемся там, але ў двары Дома друку знаходзіцца экспедыцыя (фактычна, дзяржаўнае прадпрыемства-манапаліст), якая дастаўляе НАВІНЫ падпісчыкам і пакупнікам па ўсёй тэрыторыі Беларусі. Таму кожны раз перад выхадам чарговага нумара газеты машына з накладам НАВІНАЎ мусіць заязджаць на тэрыторыю Беларускага дома друку.

Уявіце сабе сітуацыю, калі вы ідзяце ў госці да сябра, які жыве на трэцім паверсе, а жыхары другога паверха патрабуюць з вас плату «ў мэтах упарадкавання руху па пад'ездзе» ці «на прыборку лесвічнай клеткі». Прыкладна ў такой сітуацыі апынуліся цяпер і мы.

На сённяшні дзень мы мусім плаціць фактычна ні за што па мільёну за кожны нумар газеты — гэта ад 12 да 14 мільёнаў у месяц. На жаль, мы ўжо даўно не атрымліваем суперпрыбыткаў ад выдання НАВІНАЎ, таму кожны дадатковы рубель, выдаткаваны на выпуск газеты, балюча адбіваецца на нашым бюджэце. Гэтую сітуацыю цудоўна ведаюць у Доме друку — і вырашылі дадаткова зарабіць на нас.

Мы разглядаем гэтыя захады Дома друку як дыскрымінацыю — бо большасць дзяржаўных газетаў друкуецца менавіта на гэтым прадпрыемстве, і таму яны не плацяць за ўезд-выезд машынаў.

**Міхась КАРПОВІЧ**

КІРАЎНІЦТВА СПРАВАМІ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСКІ ДОМ ДРУКУ»

УПРАВЛЕНИЕ ДЕЛАМИ ПРЕЗИДЕНТА РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
ИЗДАТЕЛЬСТВО «БЕЛОРУССКИЙ ДОМ ПЕЧАТИ»

220013, г. Минск, пр. Ф. Скорины, 79.
Телефоны: приемная — 68-27-03
АТС — 68-27-05
бухгалтерия — 68-27-37
Факс (0172) — 31-91-15.

Расчетный счет № 3012200990012
в Славянском отд. Белбизнесбанка, код банка 834.
Отгрузочные реквизиты:
ст. Степянка Белорусской жел. дор., код № 140403,
жел. дор. код предприятия № 4733.

№ 23/4 «15» 01 1999 г.

В связи с необходимостью упорядочения работы по пропуску на территорию предприятия автомобильного транспорта, а также издержками, связанными с уплатой экологического налога, содержанием дорог и дворовой территории пропуск автомашин на территорию Издательства осуществляется на условиях предварительной оплаты.

Стоимость одного въезда каждой машины, стоянка при разгрузо-погрузочных работах на территории издательства составляют две минимальные заработные платы.

Прошу производить оплату за указанные выше услуги до 1 числа текущего месяца согласно выставленного счета.

Генеральный директор [подпись] В.А.Кутовой

## Хочаш працаваць – вучыся шукаць працу

**У гэтым годзе Мінскі цэнтр сацыяльных інавацыяў збіраецца вучыць беспрацоўных актыўнаму пошуку работы.**

Статыстычныя дадзеныя сведчаць, што такая дапамога беспрацоўным значна эфектыўней, чым традыцыйная прапанова вакансіяў праз дзяржаўную службу занятасці. Так, напрыклад, пасля семінараў, што праводзіліся Цэнтрам з беспрацоўнымі жанчынамі (як вядома, большасць работадаўцаў аддае перавагу мужчынам), удалося працаўладкавацца да 67 працэнтаў удзельніцаў.

На працягу 1999 года Цэнтр плануе падрыхтаваць спецыялістаў, якія змогуць праводзіць такія заняткі з беспрацоўнымі ва ўсіх абласных і некаторых малых гарадах Беларусі, дзе ўзровень беспрацоўя найбольш высокі.

*БелаПАН*

## Беларуская мова праігнаравана

*Заява сакратарыята Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны*

З недаўменнем і абурэннем патрыёты Беларусі ўспрынялі той факт, што абодва экземпляры падпісаных 25 снежня 1998 года ў Маскве Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкам і Прэзідэнтам Расійскай Федэрацыі Б.М.Ельцыным Дагавора аб роўных правах грамадзян і Пагаднення аб стварэнні роўных умоваў суб'ектам гаспадарання краінаў учынены ў парушэнне агульнапрынятых дыпламатычных традыцыяў толькі на адной мове — рускай. Тым самым адкрыта засведчана непавага да дзяржаўнай беларускай мовы і яшчэ раз пацверджана хлусліва́сць дэмагагічных заяваў кіраўнікоў Рэспублікі аб роўнасці ў нас беларускай і рускай моваў.

Выступаючы пасля вяртання з Масквы ў прамым эфіры нацыянальнага тэлебачання, Прэзідэнт А.Р.Лукашэнка на пытанне журналіста аб адсутнасці беларускага варыянта падпісаных дакументаў адказаў так: *«Гэта не мае ніякага значэння. Можна было напісаць на рускай і беларускай. Але паколькі ў нас руская мова з'яўляецца ў тым ліку дзяржаўнай мовай, відаць, спецыялісты так і вырашылі, што гэта цалкам нармальна».*

Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны не лічыць і не можа лічыць нармальным парушэнне канстытуцыйнага статусу роднай мовы і заяўляе рашучы пратэст у сувязі з дэманстратыўным ігнараваннем у міжнародных стасунках дзяржаўнай беларускай мовы. Дарэчы, факты непаважлівага стаўлення ўладных структураў да мовы карэннага насельніцтва нашай краіны ў апошні час пачасціліся і робяцца звычайнымі. Так, перапісныя лісты да маючага адбыцца неўзабаве ў Беларусі перапісу насельніцтва Міністэрствам статыстыкі і аналізу падрыхтаваныя толькі на рускай мове. Ідзе відавочнае адмаўленне ад афіцыйна заяўленага двухмоўя і рэальнае замацаванне ролі дзяржаўнай мовы за рускай моваю.

Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны рашуча асуджае антыбеларускую практыку высокага чынавенства Рэспублікі ў адносінах да нашай роднай мовы і патрабуе строгага захавання за беларускай моваю ўсіх адзнак яе дзяржаўнасці.

Заклікаем усіх грамадзян суверэннай Рэспублікі Беларусь, усіх сяброў нашай Бацькаўшчыны актыўна выступаць супраць любых спробаў уціску адной з самых старажытных і багатых славянскіх моваў. Не будзем забываць, што, пакуль жыве беларуская мова, жыве самастойная, вольная Беларусь!

*Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны*

## Супраць аб'яднання з Расіяй

**У Магілёве ў нядзелю прайшоў пікет, удзельнікі якога выступілі супраць расеізідэнта Лукашэнкі.**

Пікет быў наладжаны мясцовай філіяй БНФ. У ім бралі ўдзел таксама прадстаўнікі Свабоднага прафсаюза Беларусі Віктар Івашкевіч, Сяргей Антончык, Георгій Мухін.

Пікет праходзіў каля гадзіны на рэчавым кірмашы стадыёна «Спартак». У ім удзельнічала прыкладна 40 чалавек, якія трымалі каля дзесятка плакатаў кшталту «Расія — турма народаў», «Абаронім наш дом — Беларусь!», «З жабракамі не яднаемся!» і г.д. Потым група ўдзельнікаў пікета рушыла па Першамайскай вуліцы да гасцініцы «Днепр», дзе перагарадзіла дарогу з тымі ж плакатамі. Міліцыянты не кранаць нікога. Дарожная «блакада» была непрацяглай і практычна не перашкодзіла аўтамабільнаму руху.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Далоў новы дом!

**Акцыю пратэсту правялі жыхары аднаго з мікрараёнаў Брэста пазаўчора. Група жыльцоў шматпавярховых дамоў, што размешчаны па вуліцы Арлоўскай, выйшла з лозунгамі і плакатамі, гаворачы пра нежаданне мірыцца з дзеяннямі гарадскіх уладаў і будаўнікоў.**

Справа ў тым, што на вуліцы Арлоўскай па рашэнні Брэсцкага гарвыканкама паміж дзвюма школамі будзе ўзводзіцца новы жылы дом. Бяда не толькі ў тым, што будзе знішчаны стадыён і зялёныя насаджэнні — ёсць небяспека, што адбудзецца змяшчэнне грунту і пацерпяць дамы, у якіх жывуць гэтыя людзі. Такое развіццё падзей цалкам рэальнае, паколькі калісьці на гэтай тэрыторыі былі балоты. Жыльцы 145 кватэр сабралі подпісы пад петыцыяй пратэсту, якую маюць намер адправіць у Камітэт дзяржкантролю і ў гарвыканкам. Прадстаўнікі мясцовай улады, якія прыбылі да ўдзельнікаў акцыі, абяцалі падумаць над абгрунтаванасцю прынятага рашэння аб будаўніцтве.

*БелаПАН*

## Зімовы прызыў амаль скончыўся

**Напрыканцы мінулага тыдня завяршылася адпраўка ў злучэнні і часці Узброеных Сілаў Беларусі хлопцаў, прызваных на тэрміновую ваенную службу ўвосень і ўзімку.**

За гэты прызыў у войска патрапіла каля 13 тысяч навабранцаў.

25—29 студзеня распачнецца трэці этап прызыву: маладыя людзі будуць накіраваныя ў іншыя ваенныя фарміраванні краіны — часці КДБ, пагранічныя войскі, унутраныя войскі міністэрства ўнутраных справаў.

*БелаПАН*

## Сцягі над Мар'інай Горкай

**У Пухавіцкім раёне ў нядзелю невядомымі былі вывешаныя бел-чырвона-белыя сцягі.**

Некалькі такіх сцягоў вісела на будынках адміністратыўнага цэнтра раёна Мар'інай Горкі, яшчэ некалькі на дрэвах уздоўж шашы на Чэрвень і побач з Мар'інагорскім саўгасам-тэхнікумам. Мясцовыя жыхары сцвярджаюць, што сцягі правіселі да вечара.

Падобнае час ад часу здараецца ў многіх кутках Беларусі. Бел-чырвона-белымі штандартамі ўпрыгожваліся Барысаў, Бабруйск, Полацк, іншыя гарады і мястэчкі краіны. Неаднаразова з'яўляліся нацыянальныя сцягі і на будынках Мінска, у тым ліку адміністратыўных. Улады збіліся з ног, шукаючы аўтараў гэтых акцыяў, аднак дагэтуль невядомыя патрыёты застаюцца няўлоўнымі.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## У Буратино тоже не было лишних денег



Публика уже привыкла к регулярным совещаниям на высоком уровне. Они проводятся по самым различным вопросам, но чаще всего, по аграрным. Как правило, эти совещания скучны и непродуктивны. Но последнее, посвященное вопросам развития агрокомплекса, выглядело даже экстравагантным. Дело в заявлении Лукашенко о том, что выделение средств убыточным сельхозпредприятиям будет отныне рассматриваться как преступление. Отсутствие денег он объяснил происками. Де мол, российский и мировой финансовые кризисы истощили ресурсы Беларуси, поэтому у нас нет лишних денег, чтобы закапывать их в землю.

Тем не менее, намерение поддерживать тех, кто еще плавает, вполне разумное. Нормальные руководители нормальных хозяйств давно предлагали такой подход, при котором больше ресурсов выделялось бы тем, кто эффективнее работает. В первую очередь им нужна свобода торговли. Производитель должен иметь право продавать продукцию тому, кто больше за нее заплатит. А если его обязывают выполнять госпоставки по ценам, не окупающим затраты, какая же это свобода? Все это понимают, но дай колхозам такую свободу, нечем будет и управлять. Но ведь и деньги нужны. Поэтому, чтобы колхозы могли «себя содержать», им хотят позволить продавать часть собственной сверхплановой продукции «по так называемым рыночным ценам». Если читатель помнит, к этому свелись попытки реанимировать колхозы при Горбачеве. Что получилось, известно.

Что будет с колхозами-банкротами после того как им откажут в кредитах, сказать трудно: по отношению к ним намечается «дальнейшее реформирование». Но судя по тому, что малопродуктивные земли предполагается исключать из сельскохозяйственного оборота и превращать их в луга, многие из этих хозяйств останутся таковыми только на бумаге. Но польза от этого мероприятия несомненно будет, потому что истощенная земля хоть немного отдохнет, и, может быть, потомки сумеют распорядиться ею с большей выгодой.

Недовольство Лукашенко вызвано тем, что сельское хозяйство оказалось в прошлом году единственной отраслью, которая не достигла прогнозных показателей, хотя ему и были выделены 23 трлн. руб. В чем же дело? Среди факторов, мешающих использованию потенциала, наличие которого у деревни не отрицал никто, по-прежнему называется несоответствие цен. Техника, удобрения, услуги дорожают быстрее сельхозпродукции. В таких условиях крестьяне будут всегда в проигрыше.

Иными словами, в наступившем году в принципе все останется таким, как и было. Народ будет отовариваться дешевым продовольствием методом случайного поиска, «вертикаль» — сокращать «отпуск в одни руки», а ОМОН, КГБ и прочие наместники — рыскать по стране в поисках исчезнувших яиц.

**Константин СКУРАТОВИЧ**

## Фальшывыя долары

**18 студзеня ў Гродне быў затрыманы з фальшывай валютай жыхар Азербайджана.**

За 3 тысячы доляраў ён спрабаваў купіць у аднаго гродзенца ўжываны мерседэс. Прадавец аказаўся супрацоўнікам міліцыі на пенсіі, а ўся валюта — падробленай.

**С.М.**

## Мумія з Маладзечна

**У адным з дамоў Маладзечна знойдзены труп старой жанчыны, якая памерла прыкладна 5—10 гадоў таму і праляжала ўвесь гэты час у кватэры.**

Цела Анастасіі Войніч не разлажылася, як гэта звычайна бывае з нябожчыкамі, а ператварылася ў мумію.

Пасля пахавання мужа жанчына жыла адна, дзяцей не мела. І ўсё ж цяжка зразумець, чаму яе знікненнем не зацікавіліся ані суседзі, ані мясцовыя ўлады ды міліцыя. Знайшлі бабульку пад новы 1999 год, калі вырашылі засяліць яе, быццам бы, «бясхозную» кватэру.

Здзіўлення заслугоўвае не толькі той факт, што нябожчыца праляжала ў сваёй кватэры шмат гадоў, але і ператварэнне цела ў мумію. Па дадзеных спецыялістаў з бюро судовай экспертызы, такое з целам памерлага чалавека бывае выключна рэдка, але здараецца. Сакрэт натуральнага ператварэння нябожчыка ў мумію вучоным дагэтуль невядомы.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**



# Михаил Чигирь как возможный кандидат в президенты

*Мнение бизнесмена Александра Пупейко, высказанное в Варшаве корреспонденту НАВІНАў Людмиле Гулякевич*

**Л.Г.:** *В последнее время в Беларуси активно обсуждается возможное участие бывшего премьер-министра Михаила Чигиря в президентских выборах. Существуют также различные спекуляции относительно источников финансирования его избирательной кампании. Могли бы Вы также сделать какие-то предположения по этому вопросу.*

**Александр Пупейко:** Похоже, что в Беларуси больше не о чем говорить... Ну, а что касается финансирования избирательной кампании Чигиря или кого бы то ни было, то мне кажется, что, как в моем случае, самым лучшим адвокатом был Александр Лукашенко, так и здесь его можно считать самым лучшим спонсором. Просто, нужно будет как следует это обыгрывать и тогда малой кровью можно будет добиться успеха. То, что творит этот человек и его команда, еще не дождалось серьезной критики, а если его как следует начать критиковать — умно критиковать — то это добавит сторонников контркандидату нынешнего президента. Я хочу напомнить, что пять лет назад кандидат в президенты по имени Лукашенко имел ведь совсем не много денег (я думаю, речь шла о 100 тысячах), но ему хватило, чтобы свалить представителя власти Кебича. Если одним из самых главных его финансистов был Саманков, который «девятку» за 4 тысячи купил в «Пуше» и передал им, то можно себе представить размер «стартового капитала» Лукашенко... Но 100 тысяч — это не мои предположения, это оценки Синицина.

Для президентской кампании это немного, но существуют вполне конкретные технологии финансирования подобных мероприятий. Чигирь обладает этими технологиями. Говоря бизнес-языком, он является сердцевиной инвестиционного проекта. Привлечение денег под инвестиционный проект — это известная процедура, известные механизмы. И Чигирь вполне способен под этот «инвестиционный проект» привлечь деньги: как из России, так из Беларуси и из-за рубежа.

В тот момент, когда Чигирь сумеет убедить, выражусь осторожно, общественное мнение в серьезности своих намерений, деньги у него появятся.

**Л.Г.:** *Вы считаете, что белорусский бизнес сегодня может профинансировать чью бы то ни было избирательную кампанию?*

**А.П.:** Что касается белорусского бизнеса, то я два года там уже не бывал и, честно говоря, не представляю себе, что это за понятие. По слухам, я допускаю, что это люди, «приближенные к телу». Но это не серьезно, то есть не они являются базой для финансирования такого сорта мероприятия.

**Л.Г.:** *А чем могла бы фигура Чигиря быть интересной для российских потенциальных спонсоров? Трудно представить себе когонибудь в Беларуси, кто бы столько делал для России, как Лукашенко...*

**А.П.:** Лукашенко — это прежде всего чрезвычайно ненадежный партнер для россиян, и он это активно демонстрирует. Все эти обвинения россиян в провоцировании финансовых трудностей в Беларуси — только это чего стоит. Разве можно серьезно считать, что им как партнером доволен «Газпром»?! Покажите мне хоть какую-то серьезную структуру, которая довольна Лукашенко как партнером... Таких нет. Есть группа вполне конкретных людей, которые наживаются на так называемом таможенном союзе, на этом бесконечном контрабандном потоке. И только. Но это незначительное количество людей. А Чигирь, я думаю, сумел зарекомендовать себя серьезным партнером, или потенциальным серьезным партнером в России.

**Л.Г.:** *Может ли он предложить серьезную экономическую программу, чтобы вывести Беларусь из кризиса?*

**А.П.:** Я думаю, что может. И я предполагаю, что ему окажут серьезную поддержку люди, которые, как я, глубоко убежден, могут вывести Беларусь из глубокой экономической ямы. В первую очередь, это люди, которые концентрируются вокруг Станислава Богданкевича. Я полагаю, что Чигирь не вызывает у них резких отрицательных эмоций.

**Л.Г.:** *Тем не менее, этот шаг Чигиря многих удивляет: нельзя сказать, чтобы он был харизматическим лидером оппозиции...*

**А.П.:** Какая тут харизма, когда нужно 3—4 часа стоять в очереди за десятком яиц. Харизматическая личность уже довела страну до унизительного положения. Наверное, многим еще памятно, что при Чигире, когда он противостоял или микшировал экономические «закидоны» президента, жизнь была гораздо более достойная. И это самое главное, что, на мой взгляд, следует эксплуатировать в избирательной кампании. И это наверняка заменит то, что называют харизмой.

## Манументы выбітных гуманітарыяў ў студэнцкім гарадку

*Падарунак універсітэту*

**Помнікі Францыску Скарыну і Міколу Гусоўскаму ўсталяваныя ў дворыку Беларускага дзяржаўнага універсітэта.**

Гэтыя скульптуры падаравалі універсітэту грамадска-асветніцкі клуб «Спадчына» пад кіраўніцтвам Анатоля Белага. Аўтарам помніка славутаму беларускаму асветніку Францыску Скарыну з'яўляецца скульптар Сяргей Адашкевіч, а выбітнага паэта Міколу Гусоўскага ўвекавечыў Уладзімір Панцялееў.

Дарэчы, лёс гэтых помнікаў дагэтуль складваўся не вельмі ўдала. Медны Скарына, напрыклад, быў адліты ўжо некалькі гадоў таму, аднак месца яму ў Мінску ўсё не знаходзілася.

Помнікі выдатным дзеячам нацыянальнай культуры на тэрыторыі універсітэта — вядомая еўрапейская традыцыя, адзначаюць спецыялісты, вітаючы гэтае рашэнне кіраўніцтва БДУ.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

ДАГЕРРОТИП

# В 2006 году Европа будет лежать под сапогом российского солдата

**В этом убеждает карта, приложенная к книге «Грядущая мировая война» Каспара Уайнбергера и Питера Швейцера, только что вышедшей в польском переводе. Польша, Чехия, Германия, Австрия, Франция как самостоятельные государства более не существуют... Еще сохраняют суверенитет Испания, Италия, Англия, балканские страны, но совершенно очевидно, что прежней Европы нет, поскольку в ней воцарился российский ядерный диктат.**

Можно было бы и отмахнуться от этого бреда. Мало ли сегодня появляется различных *political fiction*! Если бы не одно обстоятельство: один из авторов книги, Каспар Уайнбергер, был министром обороны США в период президентства Рейгана, одним из создателей программы «звездных войн», сегодня он влиятельный стратег и политик, другой автор, Питер Швейцер, — известный политический комментатор, преподаватель Гуверовского института. Одним словом, люди серьезные...

Наверное, поэтому в 1997 г., когда книга впервые вышла на родине авторов, ее беспрестанно цитировали и в палате представителей, и в Сенате США. Споры идут, разумеется, о безопасности США. Говорят о том, что военные расходы за минувшее десятилетие уменьшились на треть, что впервые в новейшей истории страны не идет работа над новым самолетом для военного флота, что впервые армия не заказала разработку нового танка.

Одним словом, труд Уайнбергера и Швейцера упал, что называется, на благодатную почву. Вероятно, особую убедительность ему придали не скучные цифры и таблицы, а прежде всего художественная форма.

... Итак, в 2000 году в погрязшей в экономическом хаосе, коррупции и преступности России президентские выборы выигрывает генерал-популист Александр Каращук. Начинается отстройка империи. Особое внимание президента — военно-промышленному комплексу. Хотя и шло в предыдущие годы разоружение и вроде был контроль, но удалось сохранить 90 тайных объектов, где развивалось и совершенствовалось производство новейшего оружия, в том числе лазерного. К 2006 году Россия стала превосходить силы НАТО как в сфере баллистических и межконтинентальных ракет, так и в системе противоракетной обороны. Было в точности высчитано, что в случае нанесения первого удара Россия получает очевидное преимущество.

Встревоженное скоплением российских войск на границе польское руководство во главе с президентом заседает на вилле под Белостоком. Российский спецназ за несколько минут захватывает виллу: убиты министры, высшие военные чины, убит президент. Идет массовое и хорошо подготовленное военное вторжение в Польшу — авиация, танки... Как член НАТО Польша рассчитывает на помощь со стороны стран Западной Европы и США. И те готовятся послать свои дивизии. В Белом доме президент Джон вместе с военными обсуждает возможность ответного удара. И узнает от руководителя Комитета начальников штабов генерала Крамера ужасную новость. Оказывается, что США, сокращая свою противоракетную оборону, рассчитывали, что Россия также будет придерживаться заключенных на этот счет соглашений. Но вот разведка донесла, что в течение последних двух недель вдоль российской границы было развернуто от четырех до шести тысяч боеголовок как части системы противоракетной обороны. Следовательно, стратегическое равновесие нарушено, и Россия имеет очевидный ядерный перевес.

Штаты вынуждены отказаться от нанесения ядерного удара. Но дивизии западных стран, членов НАТО, уже маршируют на Восток. Президент Франции Жак Лабуа получает краткое послание от Каращука с требованием, чтобы *«все силы НАТО не входили на территорию Польши»*. В противном случае последует немедленная ядерная атака. Президент Франции звонит президенту США и слышит от него, что американская возможность нанесения ответного ядерного удара уменьшилась на 95 процентов. Но французы уже высаживаются на территории Польши. И вот ужасная ядерная атака, превратившая в пустыню место базирования войск атлантического союза.

Франция, Германия, Великобритания прекращают свои военные операции в Польше. Терпит поражения польская армия. Русские занимают Варшаву. Временной столицей страны становится Щецин. 11 апреля 2006 года российская армия штурмом берет последний оплот польской государственности. *«Свободная Польша перестала существовать»* — такими словами заканчивают авторы эту главу своей книги.

Надо отметить, что в Польше книгу Уайнбергера и Швейцера используют в качестве аргумента как сторонники, так и противники вхождения страны в НАТО.

**Семен БУКЧИН**

*Варшава*

# Милосердие – лекарство от беды

*10 лет назад был создан Белорусский фонд милосердия и здоровья*

У Белорусского фонда милосердия и здоровья три цели: поддержка социально незащищенных граждан нашей страны, улучшение социальной и медицинской помощи населению, распространение в обществе идей милосердия. За десять лет работы Фонд оказал помощь и поддержку более чем 200 тысячам человек во всей Беларуси, снабдил необходимыми медикаментами и оборудованием многие больницы и дома престарелых. О деятельности этой неправительственной благотворительной организации корреспонденту нашей газеты рассказала председатель правления Фонда Валентина КОЛОСОВА.

— Наша главная задача — помочь самым незащищенным. Мы стремимся поддержать одиноких стариков, инвалидов, беженцев и переселенцев. Тем, у кого нет самого необходимого, помогаем продуктами, одеждой, деньгами. В критической ситуации Фонд может заплатить за лекарства и даже за квартиру. С 1995 года мы организуем оздоровление за рубежом детей-«чернобыльцев», помогаем больным, которым нужно лечение за границей.

**— А сколько сотрудников ведут всю эту работу?**

— В штате Фонда всего 3 человека, но у нас работают волонтеры. Таких добровольных сотрудников более 300, в каждом областном городе Беларуси открыт филиал.

**— Верно ли, что главный источник благотворительных средств — гуманитарная помощь?**

— Нет, в последнее время поток гуманитарных грузов из-за рубежа в нашу страну уменьшился. К тому же именно с гуманитарной помощью у нас больше всего проблем — ведь в соответствии с белорусским законодательством за каждый груз взымаются таможенные сборы, нужна оплата за транспортировку и склад, и вообще — налог приходится платить с каждой выдачи помощи. Мы не можем потребовать деньги с тех, кому помогаем, вот и получается, что средства с нашего благотворительного счета, предназначенные на цели милосердия, уходят по другому адресу.

**— Но благотворительная деятельность во всем мире не облагается налогами!**

— К сожалению, в Беларуси это не так. В прошлом году налоговая инспекция арестовала наши счета, требуя заплатить налоги за проведенную Фондом благотворительную лотерею. С учетом штрафных санкций мы заплатили 350 миллионов рублей, а доход от лотереи был всего 200 миллионов. Налоги на благотворительность — большая проблема, но ей не придается значения даже в проекте закона о гуманитарной помощи, который разрабатывает сейчас наша законодательная власть. Мы, представители общественных благотворительных организаций, постараемся заставить законодателей принять по-настоящему милосердный закон.

**— Не повлияют ли такие трудности на осуществление программ Фонда?**



*В последнее время нуждающихся в помощи стало еще больше.*

— В последнее время нуждающихся в помощи стало еще больше. Люди с минимальной пенсией, имеющие на содержании больных детей, иногда просто не могут самостоятельно выжить.

**— Наверное, каждый может внести свой вклад в дело благотворительности?**

— Конечно, и многие в Беларуси уже делают это. Для передачи нуждающимся люди приносят нам одежду, обувь, продукты, — все знают, как много сейчас совершенно нищих, незащищенных людей. Просьба только одна — чтобы пожертвования не унижали достоинство тех, кто их получит: пусть это будет не новая, но чистая и аккуратная одежда. Кстати, приносят нам и книги — их, особенно классику, неимущие люди разбирают с признательностью. Иногда, когда в Фонд милосердия звонят желающие помочь, мы просто называем адрес, где срочно нужно поддержать оказавшихся в беде. А если на счет Фонда поступают деньги — мы обязательно используем их для тех, кому сейчас хуже всех.

**Анна ШИМЕЛЕВИЧ**

*От редакции: телефон Белорусского фонда милосердия и здоровья в Минске — 227-73-12.*





## *Надвор'е*

Учора святкавалі Вадохрышча, і, як заўсёды, публіка чакала вялікія, знакамітыя маразы. Аднак у гэтым годзе надвор'е было цёплае. Па статыстыцы, за апошнія 20 гадоў гэтыя маразы наглядаліся даволі рэдка. Толькі ў 1978, 1979, 1985 і 1995 гадах у Мінску тэрмометры адзначалі 15—16 градусаў марозу. А вось сапраўдныя вадохрышчанскія маразы — 26 градусаў трашчалі ў нашай сталіцы ў далёкім 1968 годзе. Па народных прыкметах, калі ў вадохрышчанскую ноч выпадае снег, то будзе добры ўраджай збожжавых. Калі верыць прыкметам, то ў гэтым годзе ён не парадуе калгаснікаў.

У бліжэйшыя дні будзе стаяць цёплае для гэтай пары года надвор'е. У асноўным без ападкаў, толькі днём 22 студзеня ў паўночна-заходніх раёнах чакаюцца кароткачасовыя ападкі, месцамі па рэспубліцы галалёд. Вецер паўднёва-заходні, слабы. Тэмпература ноччу і раніцай 1—6 градусаў марозу, днём — ад 4 градусаў цяпла да 1 градуса марозу.

Па папярэднім прагнозе, да 26 студзеня рэзкага змянення ў характары надвор'я не прадбачыцца.

**В.ЧЫЖЫК,** *інжынер-сіноптык Белгідраметцэнтра*



# Шеварднадзе не считает себя бедным человеком

**Президент Грузии Эдуард Шеварднадзе недавно обнародовал данные о своем имущественном и финансовом положении, которые он внес в свою налоговую декларацию.**

В интервью грузинскому радио Эдуард Шеварднадзе сказал, что не считает себя бедным человеком, хотя собственной квартиры ни в Тбилиси, ни в Москве у него нет. Президент заявил, что тбилисскую квартиру, в которой он вместе с семьей проживал до переезда в Москву в 1985 году, в 1989 году выкупил у государства его сын Паата, который в последние годы живет и работает в Париже в ЮНЕСКО. Что касается его московской квартиры, то в ней теперь живут «друзья семьи» Шеварднадзе.

Эдуард Шеварднадзе отметил, что после возвращения в Грузию он вместе с супругой Нанули живет в правительственной резиденции в одном из районов Тбилиси. По словам грузинского президента, он был вынужден выделить из своих личных сбережений 200 тысяч лари (около 130 тысяч долларов) на реконструкцию здания.

Существенной частью личных сбережений президента являются гонорары за лекции и выступления в США и в других странах Запада, которые он читал после своей отставки с поста министра иностранных дел СССР. За каждое выступление Эдуард Шеварднадзе получал немалые гонорары — от 5 до 10 тысяч долларов. Грузинский президент также неплохо заработал на интервью (за каждое он получал от 2 до 10 тысяч долларов) и на выпуске собственной книги «Мой выбор», вышедшей в 20 странах мира.

Шеварднадзе отметил, что со всех полученных гонораров и премий он исправно платил налоги. Он сообщил также, что в конце 1994 года, когда Грузия переживала тяжелейший кризис, проживающие в Турции граждане грузинского происхождения собрали 160 тысяч долларов и перечислили их президенту Грузии на его личный счет в один из банков в Тбилиси. Бывшие соотечественники попросили Шеварднадзе пустить деньги на решение социально-экономических проблем, и «ныне эти средства используются по назначению».

*Материал подготовлен по сообщениям зарубежной прессы*

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996 Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 499 Нумар падпісаны ў друк 19/01/99 (15:00) Наклад — 17.790